Гарадская грамадска-палітычная газета

# Бабруйскае жыццё

Выдаецца з лістапада 1918 года

**Сёння ў нумары:**



№67 (15971) СЕРАДА, 3 мая 2000 года. Цана 25 руб.

# СЛАВІМ ЧАЛАВЕКА ПРАЦЫ

## З Першамайскай дэманстрацыі ў Бабруйску

*Вернасць традыцыям паказала кіраўніцтва горада, арганізаваўшы праведзенне шматлюднай першамайскай дэманстрацыі прадстаўнікоў працоўных у свята, што афіцыйна называецца Днём працы. Не перашкодзілі ёй ні абяцанае сіноптыкамі пахаладанне, ні прагнозы скептыкаў наконт таго, што "людзі не пойдуць". Людзі ў чарговы раз і прыйшлі, і прайшлі па плошчы імя У. І. Леніна без усялякага ценю прымусу – з флагамі і транспарантамі, з усмешкамі на тварах.*



*Невыпадкова перад пачаткам дэманстрацыі думку аб тым, што нехта хацеў бы адрачыся і ад традыцыі, і ад самога свята, падкрэслілі ў выступленнях і старшыня гарвыканкома Уладзімір Раманоўскі, і яго калега з сельскага раёна Міхаіл Левакоў. Надалей жа ўсё было ў адпаведнасці з традыцыяй. Кіраўнікі на трыбуне сустракалі кожную калону дэманстрантаў прывітальна ўзнятымі рукамі, з людской ракі неслася над плошчай гучнае "Ура!"*



*Па праву пераможцы спаборніцтва шэсце адкрыла калона Ленінскага раёна, які летась здолеў выпусціць прамысловай прадукцыі больш чым на 15 з паловай трыльёнаў недэнамінаваных рублёў, перавысіўшы паказчык папярэдняга года на 7 працэнтаў. Адметны ўклад у гэты поспех быў зроблены працоўнымі калектывамі прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі, лёгкай прамысловасці, прадстаўнікі якіх крочылі па плошчы. З радыёдынамікаў гучаў расказ аб акцыянерным таварыстве "ФанДОК", вядомым рабочымі дынастыямі Белакурскіх, Шчэрбічаў, Асіпенка і дасягнуўшым росту аб'ёму вытворчасці ў першым квартале. З гордасцю апавядалася пра майстроў з "Бабруйскмэблі", рабіўшых мэблі́роўку шматлікіх знакамітых аб'ектаў – ад Крамлёўскага палаца з'ездаў да Палаца рэспублікі ў Мінску. Весела ішлі дэманстранты фірмы "Славянка" і АТ "Бабруйсктрыкатаж", упэўнена выканаўшыя заданні першага квартала. Недзе сярод іх былі і перадавікі вытворчасці Тацццяна Белавус, Галіна Маркушава, Ларыса Сычугова, Тацццяна Усцінава, Раіса Іванова, Валянціна Валько. Гэта яны разам са сваімі калектывамі зрабілі вядомым бабруйскае адзенне ў Германіі, Галандыі, ЗША, Італіі.*



*Але сапраўдную вядомасць нашаму гораду прынесла прадукцыя гіганта прамысловасці рэспублікі – Беларускага шыннага камбіната "Белшына", калона якога адкрыла рух дэманстрантаў Першамайскага раёна. Летась абутак для машын бабруйчане накіравалі ўжо ў Панаму, Нікарагуа, Чэхію, Македонію, Венгрыю, дадаўшы іх да заваяваных рынкаў Амерыкі, Азіі, Афрыкі і Еўропы. У першым квартале сёлета за межы Беларусі ўжо пастаўлена каля 400 тысяч шын, экспарт павялічыўся больш чым на 3 працэнты. Акрамя таго, БШК "Белшына" традыцыйна камплектуе сваімі вырабамі МАЗ, МТЗ, ГАЗ, ВАЗ і іншыя заводы. Сярод лепшых на прадпрыемстве называюць Іллю Гарбылёва, Мікалая Гукава, Людмілу Лукіну, Галіну Сверж, Валерыя Богуша, Васіля Курляндчыка, Якава Хілюка, Міхаіла Русакевіча, Сяргея Лася, Васіля Кісляка, Паўла Дзегцярова, Васіля Арэшку і многіх іншых.*

*Дастойна, з пачуццём добра выкананай работы крочылі перад помнікам У. І. Леніну прадстаўнікі вядомых не толькі ў горадзе прадпрыемстваў. Напрыклад, па́пяхова спраўляюцца з вытворчымі заданнямі працаўнікі машынабудаўнічага завода. Не так даўно ён атрымаў на вытворчасць нафтавых помпаў міжнародны сертыфікат якасці. Сёння помпы адгружаюцца ў Расію, Казахстан, Індыю, Пакістан, Манголію. Гордасць прадпрыемства складаюць Мікалай Гайшун, Барыс Марчанка, Мікалай Мазур, Аляксандр Кардымон і іншыя. Не ўступаюць у майстэрстве калегам машынабудаўнікі з "Бабруйскаграмаша", якія з пачатку года адгрузілі ўжо каля 700 адзінак тэхнікі для ўнясення ў глебу ўгнаенняў і нарыхтоўкі кармоў.*

*Калону прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці Першамайскага раёна ўзначалілі дэманстранты АТ "Бабруйскі гарбарны камбінат". Летась калектыў заняў першае месца сярод родsuccessive прадпрыемстваў канцэрна "Беллегпрам", сёлета за тры месяцы атрымаў больш за паўмільярда прыбытку. Гэткія вынікі дасягнуты дзякуючы добрай рабоце гарбарнікаў і ў іх ліку Анатолю Сухавалаву, Галіне Кавалёнак, Алене Машніставай, Ірыне Старасочнікавай, імёны якіх гучалі над святочнай плошчай.*

*Асабліва радавалі вока шэрагі з так званых жаночых прадпрыемстваў, напрыклад, шырока вядомага "Чырвонага харчавіка". З добрым настроем ішлі дзяўчаты, жанчыны на чале з дырэктарам "салодкай" вытворчасці Людмілай Клівенковай. І не менш упэўнена вяла калону, пераважна мужчынскую, вядомы дырэктар завода буйнапанельнага домабудавання, дэпутат парламента Марыя Вінакурава...*

*Луналі сцягі над галовамі людзей, паветра напаўнялася громам духавога аркестра. Свята Першамая, свята ўслаўлення чалавека працы атрымалася.*

**А. КАНСТАНЦІНАЎ.**

*У гарвыканкоме*

## ... І З УКЛАДАМ АБАНЕНТАЎ

Сёлета павінна ўвайсці ў строй АТЭС на чатыры тысячы нумароў. Аднак вузел электрычнай сувязі не мае дастатковых сродкаў, каб рэалізаваць гэты план.

Зыходзячы з ластаноў і рашэнняў вышэйстаячых органаў, гарвыканкам дазволіў вузлу электрычнай сувязі прыцягваць да будаўніцтва АТС сродкі юрыдычных асоб і грамадзян. Але павінна быць гарантыя першачарговай устаноўкі тэлефона з прадастаўленнем абаненту права на карыстанне абаненцкай лініяй. Доля прыцягнутых сродкаў складзе 44 працэнты ад капіталаўкладанняў на стварэнне аднаго нумару тэлефона.

З кожнай юрыдычнай і фізічнай асобай будзе заключацца асобная дамова.

## ПАЧАТКОВАЯ ЦАНА ЗМЕНШАНА

Як вядома, прайшоў першы аўкцыён па продажу аб'ектаў гарадской камунальнай уласнасці. На ім былі выкуплены толькі адзін з сямі выстаўленых аб'ектаў.

Гарвыканкам вырашыў паўторна прадставіць на аукцыён непрададзеныя аб'екты. Аднак іх пачатковая цана зменшана на 20 працэнтаў.

## УРАД ПРАДСТАВІЦЬ ПРАГРАМУ ДЗЕЙНАСЦІ

Праграма дзейнасці беларускага ўрада будзе прадстаўлена ў Нацыянальным сходзе 12 мая. Такое рашэнне прынята 26 красавіка на сумесным пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў і Савета рэспублікі. З дакладам, што датычыць праграмы дзейнасці Савета Міністраў, 12 мая на сумесным пасяджэнні дзвюх палат Парламента выступіць прэм'ер-міністр нашай краіны Уладзімір Ярмошын.

**БЕЛТА.**

*ДОРОГИЕ ГОРОЖАНЕ!*

***Бобруйский районный исполнительный комитет и районный Совет депутатов горячо и сердечно поздравляют вас с первомайскими праздниками!***

***Большую, поистине неоценимую помощь в проведении сельскохозяйственных работ оказывали и сегодня оказывают нам многие предприятия города. Среди них Бобруйский шинный комбинат "Белшина", завод "Бобруйскагромаш", Бобруйский гормолзавод, строительный трест № 13, народное объединение "Бобруйскмебель", открытое акционерное общество "ФанДОК", Бобруйский завод крупнопанельного домостроения, акционерное общество "Беларусьрезинотехника", завод тракторных деталей и агрегатов и многие, многие другие.***

***Примите, уважаемые горожане, слова искренней благодарности и низкий поклон за понимание проблем сельского труженика. Нет сомнения в том, что только объединив наши усилия, мы сможем обеспечить стабильное развитие и города, и села.***

***В эти светлые праздничные дни мы искренне желаем вам крепкого здоровья, счастья, тепла и уюта, мира и достатка в каждом доме, каждой семье.***

**Бобруйский районный исполнительный комитет. Бобруйский районный Совет депутатов.**

## "БЕЛШЫНА" – У ЛІДЭРАХ

У матчы 3-га тура нацыянальнага чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболу "Белшына" прымала на сваім полі слонімскі "Камунальнік". Гэтая, як і папярэдняя гульня завяршылася перамогай на карысць нашай каманды (4:0), што дазволіла "Белшыне" замацавацца на першым месцы ў турнірнай табліцы.

Сёння бабруйскім балельшчыкам зноў пашчасціць стаць сведкамі футбольных баталій з удзелам "Белшыны", якая памерэцца сіламі ў 1/4 фіналу розыгрыша Кубка Беларусі 1999-2000 гг. Пачатак сустрэчы ў 17 гадзін на стадыёне "Спартак".

**А. НІКАЛАЕЎ.**

## ДАРОГАМІ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

Па ініцыятыве супрацоўнікаў УУС Магілёўскага аблвыканкома і актывістаў БПСМ у гэтыя дні на тэрыторыі Магілёўскай вобласці праводзіцца агітацыйны прабег. Прымеркаваны ён 55-ай гадавіне Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Сёння маршрут агітпрабегу праляжа праз Бабруйск. У 17 гадзін адбудзецца сустрэча яго ўдзельнікаў у раёне аўтавакзала, адкуль госці горада накіруюцца на плошчу Перамогі. Тут пройдуць урачыстыя мітынг, прысяга супрацоўнікаў органаў унутраных спраў і канцэрт.

Фінішуюць удзельнікі агітпрабегу 7 мая ў Магілёве.

**Наш кар.**

## Да 55-годдзя Вялікай Перамогі

# ЁН МАЛЯВАЎ ТВОРЦАЎ СОРАК ПЯТАГА

Вялікая Перамога над фашысцкай Германіяй кавалася не толькі чалавекам з аўтаматам, хаця, зразумела, ён быў галоўным яе творцам. Сярод тых, хто набліжаў 9 мая 1945 года, нярэдка ў армейскім страі знаходзіліся людзі мастацтва, у прыватнасці, мастакі, што пакінулі затым нашчадкам творы, якія распавядаюць аб гераізме савецкага народа.

Адно з відных месцаў сярод ваенных мастакоў па праву займае жывапісец і графік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, народны мастак РСФСР Анатоль Нікіфаравіч Яр-Краўчанка, які, на жаль, пайшоў з жыцця.

У лістападзе 1979 года, жывучы ў Нальчыку, сталіцы Кабардзіна-Балкарыі, я даведаўся, што ў гэты курортны горад для лячэння прыехаў згаданы мастак. Маё жаданне сустрэцца з ім было тады прадыктавана, перш за ўсё, маімі інтарэсамі як філолага, менавіта тым, што Анатоля Нікіфаравіча калісьці звязвалі блізкія адносіны з буйным рускім сялянскім паэтам Мікалаем Клюевым, які меў, як вядома, вялікі ўплыў на Сяргея Ясеніна. Сустрэча адбылася. Але наша працяглая размова кранілася не толькі літаратуры. Значнае месца ў ёй заняла тэма Айчыннай вайны і яе ролі ў прафесіянальным жыцці мастака.

Яшчэ ў трыццатыя гады вызначыўся галоўны жанр для Яр-Краўчанкі– маляваны партрэт (алоўкам, пяром, вугалем). Яго ўсё больш прыцягваюць людзі вялікай сілы і мужнасці. У 1935 годзе Анатоль Нікіфаравіч стварае знакаміты графічны партрэт Мікалая Астроўскага, дарэчы, адзіны партрэт пісьменніка. У асабістым архіве аўтара гэтых радкоў ёсць канверт са згаданым партрэтам.

У творчасці мастака ўсё больш выяўляецца ваенная тэматыка, якая стала вядучай у яго работах у пару Вялікай Айчыннай вайны.

З першых яе дзён А. Н.Яр-Краўчанка пайшоў добраахвотнікам на фронт. Ён служыў у маскіровачным узводзе, стралком-радыстам на пікіруючых бамбардзіроўшчыках, быў прыкамандзіраваны да рэдакцыі газеты "Атака". Майстэрняй партрэтыста сталі ваенныя аэрадромы. У яго творах адлюстраваны подзвігі лётчыкаў, што затым сталі вядомымі ўсёй краіне.

Графічныя партрэты мастака вызначаюцца яго здольнасцю зазірнуць ва ўнутраны свет сваіх герояў, адзначыць найбольш істотныя рысы іх характараў, паказаць іх ва ўнутранай і знешняй дынаміцы.

Памятаю, Анатоль Нікіфаравіч паказаў мне партрэт двойчы Героя Савецкага Саюза гвардыі падпалкоўніка П. А. Пакрышава, у якім ён адлюстраваў галоўныя рысы свайго героя – рашучасць, якая спалучалася з розумам ведаючага жыццё чалавека. Бачыў я і выдатны партрэт Героя Савецкага Саюза старшага лейтэнанта В. Г. Сярова, дзе ён паказаны ў момант, калі энергічным рухам займае кабіну самалёта. Здаецца, ён толькі на імгненне затрымаўся, пазіруючы мастаку. Яго твар гарэзлівы і вясёлы. Энергічны паварот галавы – сведчанне маладой, нястрымнай, мэтанакіраванай сілы. Гэтыя і іншыя партрэты Яр-Краўчанкі можна ўбачыць у ваенных альбомах мастака, якія выдаваліся ў свой час вялікім тыражом.

Мастак прызнаўся мне, што не было ніводнага выдатнага лётчыка Ленінградскага фронта, якога б ён не замаляваў. І кожнага, хто яму пазіраваў, ён прасіў пакінуць на партрэце свой аўтограф.

Як тут не падумаць аб дакументальнай значнасці гэтых замалёвак, якія неслі ў сабе свежасць успрымання людзей, што набліжалі Вялікую Перамогу?

Пасля разгрому немцаў пад Ленінградам, Яр-Краўчанка на чале групы савецкіх мастакоў рушыў на Захад. З яго партрэтных замалёвак, якія адлюстроўвалі гераізм баёў, выконваліся буйныя плакаты-партрэты, якія выстаўляліся на франтавых дарогах.

Дарэчы, у гады вайны, мастак працаваў не толькі ў партрэтным жанры. Цікавая яго графічная работа "Прарыў блакады Ленінграда. Сустрэча воінаў Волхаўскага і Ленінградскага франтоў". На ёй алоўкам майстра паказаны абдымкі і радасць людзей, якія здзейснілі бяспрыкладны подзвіг. Такіх малюнкаў майстар зрабіў сотні.

А. Н. Яр-Краўчанка застаўся верны ваенным тэматыцы і ў пасляваенныя гады. Ён стварае серыю партрэтаў лётчыкаў-касманаўтаў: Ю. Гагарына, Г. Цітова, Г. Шоніна, А. Губарава, В. Раждзественскага і многіх іншых.

Значнасць творчасці мастака-франтавіка бачыцца яшчэ больш істотнай у нашы дні, калі адзначаецца 55-годдзе Перамогі над фашысцкай Германіяй, калі ў жывых застаецца ўсё менш удзельнікаў і відавочцаў вайны, аб якой забываць не мае права ніхто з нас, жывых...

**Эдуард ЯНІН, філолаг.**



# ПРЕВРАТИЛАСЬ ШКОЛА В "ГОРОД МАСТЕРОВ"



Когда-то в нашем городе была добрая традиция, к сожалению, напрочь забытая сегодня – проведение на центральной площади у фонтана и ул. Социалистической в районе Выставочного зала ежегодной выставки-продажи изделий художественных промыслов, произведений искусства местных городских и сельских резчиков, гончаров и керамистов, художников "Город мастеров".

По различным причинам, скажем еще раз, к сожалению, проведение бобруйского "Монмартра" исчезло из годового календаря городских мероприятий и праздников. Но *осталось в памяти людей неравнодушных*. И три года назад благодаря энтузиазму и неравнодушию Татьяны Сергеевны Корчажкиной – искусствоведа, преподавателя СШ № 19 Город мастеров возродился, но уже в новом обличии...

На целую неделю в средней школе № 19 исчезли школьные коридоры и вместо них появились площадь Волшебных ножниц, бульвар Росписи, улица Живописи, переулок Макраме. А сама школа преобразилась в тот самый исчезнувший с бобруйских улиц городской Монмартр.

Подобная метаморфоза происходит уже третий год подряд. Третий год по весне учащиеся СШ №19 от начальных и до старших классов живут фактически только одним событием – школьной неделей изобразительного искусства.

— *У нас открыты 4 выставки, — говорит* Татьяна Сергеевна. — Общеобразовательных классов; методическая выставка и выставка природы и фантазии по флородизайну; работает Город мастеров. То есть, дети показывают то, что они делают на протяжении года. Ведь наша школа с художественным уклоном.

Проходим по оживленным и шумным улицам Города мастеров. Всматриваемся в воодушевленные лица юных художников. Для *каждого из них выставка на всеобщее обо*зрение и оценку своих работ, конечно же, событие, которое на долго останется в памяти, а может быть для кого-то определит дальнейший путь в жизни.





Например, кто бы мог сказать, что восьмиклассница Елена Никифоровец может так виртуозно владеть ножом, выполняя резьбу по дереву и складывая из кусочков шпона, словно из мозаики, великолепные картины.

На Арбате "Ласточка" наше внимание привлек Женя Маточкин, который, как на взаправдашнем Арбате, с непередаваемым воодушевлением пытался нарисовать портрет своего друга. И постараться было за что, так как платой ему было обещание учительницы математики Ольги Евгеньевны Коневой поставить "пятерку", если портрет будет похож на оригинал...

Неподалеку воспитанницы мастера Л.К.Рудаковской из высшего профессионального училища декоративно-прикладного искусства демонстрировали свои работы.

Девочки не случайно оказались в школе. Здесь они проходят практику, поскольку СШ № 19 уже несколько лет является для училища базовой.

Что ждет этих детей в будущем? Трудно сказать, выберут ли они тернистую дорогу искусства. Но в любом случае умение понимать и ценить красоту в жизни пригодится всегда.

— Кроме того, — говорит Т.С.Корчажкина, — *если человек в душе художник, то он любую работу* будет стремиться сделать лучше и красивее. И вообще воображение и фантазия помогают в любой профессии.

**Валерий ЗИНОВСКИЙ.**

**На снимках:** *"визитная" карточка Города мастеров; Т.С.Корчажкина проводит экскурсию по "улицам" школьного Города мастеров; Елена Никифоровец возле своей работы; рисуют юные художники.*

**Фото Александра ФИСЕНКО.**

## САМАДЗЕЙНЫ ТЭАТР САТЫРЫ І ГУМАРУ

Крыху больш двух месяцаў таму пры Доме культуры акцыянернага таварыства "ФанДОК" быў створаны самадзейны тэатр сатыры і гумару, якім кіруе Надзея Карпенка. У састаў тэатра ўвайшлі Іван Шапіраў, Святлана Чарненка, Павел Дайнека, *Вацлаў Паўловіч, Наталля Казлова,* Марыя Іваненка і іншыя. Рэпертуар складзены з твораў мясцовых паэтаў, сатырыкаў і гумарыстаў.

Новым мастацкім калектывам ужо дадзены два канцэрты: адзін – на сцэне Дома культуры дрэваапрацоўшчыкаў, другі – у *Палацы культуры Беларускага шынніка* камбіната. І абодва яны прайшлі з поспехам. Публіцы спадабаліся нумары, з якімі выступілі Яўген Дзялендзік, Святлана Чарненка, Надзея Карпенка, Іван Шапіраў.

**Васіль КАСЦЯН.**

## АБМЕРКАВАЛІ НАДЗЁННЫЯ ПЫТАННІ

Пытанні, што тычацца сацыяльна-эканамічнай абароны ветэранаў, разгледжаны на нядаўна прайшоўшым пашыраным пленуме *савета ветэранаў Ленінскага раёна,* які вось ужо доўгі час узначальвае Уладзімір Фаміч Галаенка.

Як зазначыў у сваім дакладзе Уладзімір Фаміч, нягледзячы на палітычную і эканамічную нестабільнасць у грамадстве, што ўплываюць на ўзровень жыцця народа, усе 36 ветэранскіх пярвічных арганізацый імкнуцца выконваць пастаўленыя перад сабой задачы. Найбольш плённа ў гэтым напрамку працуюць саветы ветэранаў на АТ "ФанДОК", на прадпрыемстве электрасетак, ЖЭУ-13.

*Сёння на тэрыторыі Ленінскага раёна* жыве 1650 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Яны ахоплены ўвагай і клопатам. Толькі з боку прадпрыемстваў летась гэтай катэгорыі людзей была аказана адзінаразовая грашовая дапамога ў памеры 10,5 мільярда рублёў. Безумоўна, прыемным падарункам для ветэранаў стаў і Дэкрэт кіраўніка нашай дзяржавы, адпаведна якога з 1-га мая павышаюцца памеры пенсій удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны і некаторым іншым катэгорыям грамадзян.

У ходзе пленума, удзел у якім прыняў намеснік кіраўніка адміністрацыі Ленінскага *раёна* У. Ф. Алейнік, вопытам работы ў сваіх ветэранскіх арганізацыях падзяліліся Я. С. Вярэніч, У. Ф. Гаўрыленка, С. В. Пугач і іншыя актывісты савета ветэранаў Ленінскага раёна.

**А. БАБКОЎ, старшыня савета ветэранаў ЖЭУ № 7.**

## ОБРАЩЕНИЕ К УЧАСТНИКАМ ДОРОЖНОГО ДВИЖЕНИЯ

Транспортные средства, двигающиеся по дорогам города, становятся все более распространенным средством перемещения людей и грузов. Ежегодно в городе количество транспортных средств увеличивается более чем на 3%, что повышает интенсивность их движения по дорогам города и других населенных пунктов. Рост численности парка автотранспортных средств в городе и повышение интенсивности их движения увеличивают опасность роста случаев травматизма людей.

Ежегодно в городе Бобруйске вследствие дорожных происшествий гибнет 18 человек и 103 человека получают ранения. Значительная часть этих людей – дети, престарелые, инвалиды, велосипедисты, водители мопедов. Травмированные в результате дорожно-транспортных происшествий дети в ряде случаев становятся инвалидами.

Основной причиной гибели и ранения людей является их халатное отношение к соблюдению Правил дорожного движения.

В соответствии с рекомендациями ЕЭК ООН в Республике Беларусь с 1 по 7 мая 2000 года проводится

неделя безопасности дорожного движения,

которая призвана расширить информированность населения о безопасном поведении на автомобильных дорогах, что будет способствовать сохранению жизни и здоровья тысяч людей. Учитывая важность этой задачи, обращаемся ко всем участникам дорожного движения повысить ответственность за соблюдение правил, чтобы сохранить свою жизнь и здоровье, а также сохранить их у окружающих Вас людей.

Госавтоинспекция рекомендует всем водителям транспортных средств в период с 1 по 7 мая двигаться по дорогам в дневное время суток с включенным светом фар.

**ГАИ УВД БОБРУЙСКОГО ГОРИСПОЛКОМА**

## БЕЛГОССТРАХ ИНФОРМИРУЕТ

В связи с изменением в течение 1999 года индекса роста стоимости строительно-монтажных работ в 3,88 раза индексируется страховая стоимость строений, *подлежащих обязательному страхованию*, а также размер страховых взносов, исчисленных к уплате в 2000 году.

Основанием для уплаты страхового взноса является уведомление, которое выдается на руки домовладельцам.

Страховые взносы можно уплатить: в отделении Белгосстраха, страховому агенту Белгосстраха или в почтовых отделениях.

Рост страховых сумм позволит существенно увеличить размер выплат страхового возмещения по данному виду страхования. По обязательному страхованию строения застрахованы только на 50%, поэтому для обеспечения полной защиты заключайте договоры добровольного страхования строений.

В отделение Белгосстраха города Бобруйска от домовладельцев поступило свыше 40 заявлений, по которым сумма ущерба за поврежденные строения составила почти 3 миллиона деноминированных рублей и *была выплачена гражданам в качестве страхового воз*мещения.

По всем возникающим вопросам, касающимся обязательного страхования строений, вы можете позвонить по телефонам: 7-66-87, 7-78-55.

**Т. ЧИСЛОВА, зам. начальника отделения Белгосстраха города Бобруйска.**

## Да 55-годдзя завода ТДіА

# ВУСНАМІ ВЕТЭРАНАЎ ГАВОРЫЦЬ ГІСТОРЫЯ

***Бабруйскі завод трактарных дэталяў і агрэгатаў, прафесійны почырк яго калектыву вядомы далёка за межамі горада на Бярэзіне і нашай рэспублікі. Да яго вырабаў, вузлоў, агрэгатаў самым непасрэдным чынам маюць дачыненне сотні ветэранаў. Старая ісціна, што добрымі спецыялістамі не нараджаюцца, адносіцца ў першую чаргу да тых, хто аддаў роднаму заводу многія дзесяткі гадоў, хто стварaў сваімі рукамі яго багацце. Аб гэтым лепш за ўсіх раскажуць самі ветэраны, вуснамі якіх гаворыць сама гісторыя.***

**Таццяна Цярэнцьеўна ПАШУК, старшы інспектар па кадрах аддзела кадраў завода:**

– На маіх вачах рос завод. Пачала працаваць на ім у далёкім 1961 годзе вучнем фрэзероўшчыка. Тады ўсе пачыналі з вучняў ці падсобных рабочых. Затым перайшла працаваць табельшчыцай, інспектарам па кадрах. Спачатку, калі я прыйшла, на заводзе працавала ўсяго 300 чалавек. Але і тады людзі вельмі даражылі сваім рабочым месцам, цякучасць кадраў была невялікай.

Падбор работнікаў ажыццяўляўся строга. Ды і выбар іх быў невялікі. У Бабруйску спецыялістаў нашага профілю было вельмі мала. Частку спецыялістаў, асабліва высокакваліфікаваных наладчыкаў, бралі па пераводу з Мінскага трактарнага завода. І зараз з'яўляюцца асамі сваёй прафесіі такія спецыялісты як В. А. Пінчук, У. У. Ясюкевіч і іншыя, якія змянілі сталічную прапіску на бабруйскую.

Бралі на заводы маладых, як кажуць, з вуліцы. Яны вучыліся ў настаўнікаў, набіраліся розуму. Маладыя таксама моцна трымаліся за сваё месца. Рэдка хто з іх звальняўся. У той час пераважала індывідуальная форма вучобы. Хаця працавалі і розныя курсы падрыхтоўкі кадраў, многіх рабочых накіроўвалі на вучобу на Мінскі трактарны завод.

З часам бралі на прадпрыемства дзяцей завадчан. Менавіта тады з'явіліся на заводзе і першыя дынастыі трактарабудаўнікоў. Сярод іх і дынастыя Ясюкевічаў. Сюды, на завод, спачатку прыйшла яго жонка, а затым і сын.

У далейшым кадравая палітыка будавалася з улікам падбору спецыялістаў на новыя вытворчыя магутнасці. На завод ішлі спецыялісты з іншых прадпрыемстваў нашага горада. Мы іх ахвотна прымалі, але многіх накіроўвалі на вучобу на МТЗ. Наладзілі работу і сваіх курсаў па павышэнню кваліфікацыі. Не забывалі і аб індывідуальнай форме навучання.

Што асабліва запаматалася з тых часін? Цяга людзей да ведаў. Пасля работы рабочыя ішлі ў тэхнічны клас, бібліятэку, "грызлі" граніт навукі. Многія аваладвалі сумежнымі спецыяльнасцямі, асобныя спецыялісты валодалі пяццю-шасцю сумежнымі прафесіямі. Ужо ў тыя часіны за станкамі стаялі рабочыя з сярэдне-спецыяльнай і нават вышэйшай адукацыяй. Людзі вучыліся, імкнуліся да дасканаласці. Шлях ад вучня токара да высакакласнага наладчыка прайшоў М. К. Міртука, ад вучня слесара-лякальшчыка да слесара-інструментальшчыка прайшоў М. І. Бокій. Міхаіла вучыў рабочай прафесіі яго бацька – Іван Флярыянавіч.

Шмат увагі ўдзялялі тады і рабоце з рэзервам кадраў. Гэта прыносіла свае вынікі. Так, ад тэхнолага да галоўнага інжынера завода вырас В. І. Свістуноў, ад вучня да намесніка галоўнага інжынера завода – У. І. Падабедаў, ад рабочага да галоўнага энергетыка – В. М. Малярэнка, ад майстра да галоўнага механіка – Э. І. Данцэвіч. І гэты пералік можна доўжыць.

**І. Ц. Федзяінаў, інжынер па падрыхтоўцы вытворчасці механічнага цэха № 2:**

– У студзені бягучага года адзначыў своеасаблівы юбілей – 40 гадоў работы на заводзе. Пачынаў пасля службы ў Савецкай Арміі раздатчыкам інструменту на інструментальным складзе. Быў і вучнем токара, токарам, скончыў без адрыву ад вытворчасці Мінскі політэхнікум.

Добра памятаю 1961 год. Тады мы працавалі разам са "старыкамі" у адной брыгадзе. З імі мы, маладыя, не ладзілі. Размова ішла аб заробку, крыўдзілі яны нас. Вырашылі стварыць сваю камсамольска-маладзёжную брыгаду – першую ў старым механічным цэху. Арганізавалі яе, сталі працаваць самастойна. Першым брыгадзірам камсамольска-маладзёжнай выбралі токара Леаніда Рэпнікава. Моцны быў спецыяліст, майстар сваёй справы, добры арганізатар. Скептыкаў тады хапала. Гаварылі, маўляў, у маладых кішка тонкая, не вытрымаюць.

А мы не толькі вытрымалі, але і даказалі, што маладыя ідуць далей. У брыгадзе панаваў здаровы маральны клімат. І выкананне планаў у нас было паспяховае, і зарплата прыстойная, не крыўдзіліся на яе, нават "старыкі" зайздросцілі. Вызначалі ўклад кожнага ў брыгадную скарбонку па спецыяльнаму каэфіцыенту размеркавання зарплаты. Тады аб каэфіцыенту працоўнага ўдзелу мы яшчэ не ведалі, гэта потым яго ўвялі. З брыгады пайшоў зменным майстрам цэха. Жыццё паказала, што без ведаў працаваць прадукцыйна нельга. Паступіў у тэхнікум, скончыў яго. У тыя часіны цікавая была кадравая палітыка. Новага чалавека без згоды брыгады не бралі. Калі брыгада давала дабро, тады ідзі ў аддзел кадраў, афармляйся. А калі людзі гаварылі не, далей і размовы ніякай быць не павінна. Самі і навічкоў рыхтавалі. За імі замацоўвалі настаўнікаў, хаця члены брыгады самі былі маладымі. Камсамольска-маладзёжная брыгада хадайнічала і аб прысваенні чарговага разраду перад атэстацыйнай камісіяй.

Цэх быў свайго роду кузняй кадраў. Менавіта з яго і завод пачынаўся. Тут праходзілі рабочую загартоўку і рабочыя, і кіраўнікі. Праводзілі розныя камсамольскія суботнікі, агеньчыкі, спартыўныя спаборніцтвы, панавалі ініцыятыва, імкненне да ведаў. Без прымусу выходзілі ў выхадныя дні на добраўпарадкаванне завода. Для сябе ж стараліся.

На завод не крыўдую. За працу ўзнагароджан медалём "За працоўную адзнаку". Атрымаў і ганаровае званне "Ганаровы ветэран працы МТЗ", маю медаль "Ветэран працы", шмат разоў выходзіў пераможцам сацыялістычнага спаборніцтва, за што заахвочваўся прэміямі, граматамі, удзячнасцямі.

Ганаруся і сынам Алегам. Ён пайшоў па маёй дарозе. Зараз працуе майстрам механічнага цэха № 2. Разам з сынам наш рабочы стаж вымяраецца 57 гадамі.

**Успаміны запісаў**
**Міхаіл КРЫВЕЦ.**

# МУЗЫЧНАЯ СПРАВАЗДАЧА

*Нейкае хваляванне ахоплівае сталага па ўзросту чалавека, які прысутнічае на традыцыйным справаздачным канцэрце дзіцячай музычнай школы імя Я. К. Цікоцкага. Тут асабліва адчуваеш бег часу. Гэта ж колькі пакаленняў вучняў і іх выкладчыкаў змянілася за прайшоўшыя 73 гады існавання школы, колькі такіх справаздач было дадзена! Розныя яны атрымліваліся. Бывала, што ўражвалі юныя талентамі – надзеяй і гордасцю педагогаў, а здаралася, што атрымліваліся шэраватымі. Многае залежыць ад адаронасці і ўмення настаўнікаў.*

*Вось і сёлетні канцэрт, што праходзіў у тэатры драмы і камедыі ў чымсьці адрозніваўся ад папярэдняга, леташняга. Мне здаецца, што мінулы быў больш яркім, прадстаўленчым, цікавым. І прысутнічала тады куды больш публікі. Хаця, мяркуючы па інфармацыі, якую зрабіў перад пачаткам справаздачы дырэктар школы М. М. Шлык, у гарадскіх конкурсах вучняў музычных школ бралі ўдзел усе яе аддзяленні, а асобныя калектывы і салісты – у абласным конкурсе выканаўцаў на струнных смычковых інструментах, абласным фестывалі вакальна-харавой музыкі і рэспубліканскім конкурсе выканаўцаў на народных інструментах.*

*Як звычайна, канцэрт адкрыўся выступленнем хора старшакласніц пад кіраўніцтвам педагога-ветэрана А. Куцэнка. Праз некалькі нумароў мы пачулі зладжанае спяванне змешанага хора вучняў малодшых класаў пад кіраўніцтвам педагога А. Сцепанчук – дыпламанта абласнога фестывалю вакальна-харавой музыкі, прысвечанага 160-годдзю з дня нараджэння П. І. Чайкоўскага. Каб закончыць размову аб вакальнай частцы канцэртнай праграмы, варта ўпамянуць дыпламантаў згаданага фестывалю, другакласніка Вячаслава Цыцкоўскага – выканаўцу сольнага нумара з оперы "Пікавая дама" П. Чайкоўскага і чацвёракласніцу Веранiку Ермаловіч, якая вельмі жыва, з пачуццём праспявала "Вясёлую песеньку", што сачыніла на свае вершы педагог Э. Куцэнка.*

*З інструменталістаў прыемнае ўражанне пакінулі скрыпачка Святлана Пічугіна, піяністкі — пяцікласніца Таццяна Арцёмчык і першакласніца Марыя Троць, дыпламант рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах балалаечніца Ганна Кудрына, ксілафаніст Аляксандр Гіршын, які свабодна валодае сваім інструментам.*

*Было б несправядлівым не адзначыць і педагогаў, якія прынялі ўдзел у канцэрце і паказалі сваім вучням і публіцы сапраўдны клас ігры. Гэта ксілафаніст Віталь Саўко, які выканаў уверцюру да оперы "Вяселле Фігара" Моцарта, лаўрэат рэспубліканскага конкурсу балалаечнік Алег Бабіч, які выканаў канцэртныя варыяцыі на тэму рускай народнай песні "Калінка" і два творы ў суправаджэнні аркестра рускіх народных інструментаў, і дыпламант міжнароднага конкурсу, магістр мастацтваў Аляксандр Каліна, што выканаў канцэртную п'есу для баяна з аркестрам кампазітара В. Кузняцова. Дарэчы, у гэтым нумары вызначыўся выдатным гучаннем аркестр рускіх народных інструментаў, якім кіруе Аляксандр Вялічка.*

*Застаецца толькі пашкадаваць, што па нейкіх прычынах у праграму не былі ўключаны ансамблі скрыпачоў, створаныя нядаўна педагогам Т. Сініцынай пасля шматгадовага заняпаду ў школе класа скрыпкі, і якія добра паказалі сябе ў мінулагоднім канцэрце.*

*Як становічае трэба адзначыць, што значную частку музычнай справаздачы склалі творы беларускіх кампазітараў, а гэта, безумоўна, выхоўвае ў вучняў і публікі любоў да беларускага музычнага мастацтва.*

**Яфім ГЕЙКЕР.**

# „СЕГОДНЯ ВОРУЮТ ВЕЗДЕ –ДАЖЕ В ЦЕРКВИ"

Почти в каждом номере нашей газеты среди объявлений и рекламы от частных лиц есть немало и таких, в которых говорится об утере документов. Особенно часто встречаются объявления об утерянных пенсионных удостоверениях. К сожалению, очень часто причиной утраты этих документов является отнюдь не забывчивость пожилых людей или их рассеянность. Многие из них способны посоревноваться по уровню памяти с молодежью. Дело в том, что они чаще других становятся жертвами воров, так называемых, карманников. Каких только историй не приходится выслушивать от пострадавших в стенах редакции. Со слезами на глазах, порой, совершенно морально подавленные, что вот так внезапно лишились документов и, конечно, денег – ругают себя за беспечность, желают ворам "крепкого" здоровья и "долголетия", но проку от этого мало. И каждый день с утра пораньше приходят в редакцию все новые жертвы воровства. Слушаешь их и невольно складывается впечатление, что воры, ну, повсюду. Куда только смотрит милиция?!

Мы задали этот вопрос руководству городского управления внутренних дел. Ответ был краток: "Оперативно-розыскная и профилактическая работа в этом направлении ведется. Только за прошедший год были задержаны и осуждены десятки карманников". Более подробно согласился поговорить на эту тему оперуполномоченный уголовного розыска Николай Николаевич Котов, который за два десятка с лишним лет службы в уголовном розыске лично задержал уже сотни карманников и, вообще, считается в Бобруйском УВД талантливым сыщиком. И вот, что он рассказал:

– Действительно, сегодня от воровства в общественном транспорте, в местах массового скопления людей, практически никто не застрахован. Думаю, что не открою никакого секрета – это общеизвестно, в последние годы воровство приобрело только более широкий размах. Сегодня воруют везде – даже в церкви. Недавно был такой случай, когда у женщины, пока она усердно Богу молилась, выкрали все деньги. Для воров нет ничего святого. Это в кинофильмах вор – и вовсе



не вор, а какой-то Робин Гуд. А на самом деле, за очень редким исключением, вору безразлично у кого вытащить кошелек. Выкрадут последние копейки у старика, срежут сумочку у милой красавицы. Им неважно кто жертва, а главное, чтобы у нее были деньги и целый ворох собственных забот. Люди должны знать, что современный карманник – это, как правило, обаятельный элегантный человек. Им может быть, хоть мужчина или женщина. Бывает, что работают они целой группой. Изобретательны, тонкие психологи. Вор наметив свою жертву, учитывает все факторы, все происходящее вокруг него, и при этом он совершенно незаметен. Когда мне в середине 70-х впервые поручили найти и задержать карманника, то признаюсь, что сделать это было нелегко. Вроде бы все люди честные, порядочные... И только с годами пришел опыт, который помогает в практической работе. Не буду раскрывать всех профессиональных секретов. Вообще, задержание карманника – дело очень ювелирное. А для широкой общественности должен напомнить, если вы хотите уберечь себя от материальных потерь, соблюдайте элементарные правила предосторожности: во-первых, не носите кошельки и документы в наружных легкодоступных карманах, в хозяйственных сумках, полиэтиленовых пакетах. Второе, приобретая талоны для проезда в общественном транспорте или делая покупки в магазинах, старайтесь не демонстрировать всю имеющуюся на руках наличность, особенно, сравнительно крупные суммы денег. Надо помнить, что вор выбирает подходящий для себя объект иногда задолго до совершения кражи. Он с удовольствием "разделит" вашу бурную радость или чрезмерное горе, выудив из сумки бумажник или кошелек. Надо иметь ввиду, что в последнее время стало гораздо больше случаев, когда в кражах такого рода участвуют малолетние. И особенно чрезвычайно популярным снова становится мошенничество. Сколько только на страницах газет рассказывается о проделках цыган, но и до сих пор находятся, извините, беспечные простаки. Буквально на прошлой неделе произошел случай, когда две цыганки, пообещав молодой женщине 25-ти лет снять с нее порчу, заполучили 150 долларов и скрылись...

Поэтому в очередной раз можно повторить простую истину – нельзя быть доверчивыми с незнакомыми людьми, впускать кого-либо в свою квартиру даже под видимо благовидным предлогом; никогда нельзя терять бдительности и тогда вероятность быть обворованным уменьшается многократно.

И в заключение остается напомнить для родителей – воспитывайте в своих детях все перечисленные качества.

Возможно, ничего слишком нового не сообщил, но выполняя эти простые советы, вы повышаете собственную безопасность и сохранность своих вещей, документов и денег.

**Записал**
**М. СЕВОСТЬЯНОВ.**
**Коллаж автора.**

## Советы народной медицины



Чтобы удалить волосы с участка тела, где они нежелательны, достаточно 2-3 раза смазать волосистую поверхность соком разрезанного грецкого ореха.

* * *

Чтобы излечиться от алкоголизма, больной должен пить отвар полыни и золототысячника в равных весовых частях.

* * *

При грибковых заболеваниях ног готовят настой или отвар из травы молочая и в нем парят ноги.

* * *

Для изгнания глистов рекомендуется принимать внутрь крепкий отвар коры ясеня.

* * *

При расстройстве желудка надо пить настой мяты.

* * *

Сок рябины нанести на геморроидальную шишку (или бородавку). Излечение наступит скоро.

* * *

При укусе собаки положить на укушенное место растертую луковицу, смешанную с 1 столовой ложкой меда и 1 чайной ложкой столового уксуса (не эссенции!).

* * *

Если вы работаете во вредных условиях, вечером окунайте ноги в теплую воду.

* * *

При зуде искупаться в отваре 1 кг ячменя.

* * *

Ребенка с эпилепсией купать в отваре лесного сена.

* * *

При эпилепсии в обувь кладут стельки из тонкой высокосортной стали (например, старые лезвия бритвы). Лезвия можно положить под стельки, но летом лучше касаться стали голой ногой. Носить такую обувь надо постоянно.

* * *

Чтобы излечиться от радикулита, надо носить постоянно на пояснице тонкую медную проволоку.

* * *

При аллергии кожи купаться в отваре из дубовой коры.

# ГИМНАЗИЯ № 1 Г. БОБРУЙСКА ОБЪЯВЛЯЕТ НАБОР

**В подготовительные классы – с 1 мая. Набор проводится по результатам собеседования по предварительной записи.**

**В 1-11 классы прием учащихся будет проводиться с 26 по 31 мая. Прием заявлений до 26 мая.**

**Условия приема:**

** в 1-4 классы –по результатам собеседования по математике, русскому или белорусскому языку (по выбору), иностранному языку (английскому или французскому);*

** в 5-11 классы– по результатам вступительных экзаменов по математике, русскому или белорусскому языку (по выбору), собеседования по иностранному языку (английскому или французскому).*

**Главными задачами гимназии являются:**

*- целенаправленный набор, поддержка и развитие способных детей*

*-углубленное изучение предметов*

*-привлечение учащихся к исследовательской, поисково-творческой работе*

*-профориентация для дальнейшей учебы в ВУЗах.*

**Модель гимназии:**

*1 ст. – начальная школа (подготовительные классы, 1-4 классы).*

*2 ст. – первые 3 года основной школы, 5-6-7 классы.*

*3 ст. – 8-9 классы. Начальная специализация.*

*4 ст. – 10-11 классы. Профильное обучение.*

**Открыты профили:**

*- математика (углубленно)*

*-общественно-экономический*

*- экономический*

*- физико-математический*

*- иностранные языки (углубленно)*

*-общеэстетический*

**Творческие объединения:**

*1. Клуб "Спадчына"*

*2. Экологический клуб "Экос"*

*3. Музеи:*

*- "Спадчына"*

*- "Природа родного края"*

*- "Літаратурная Бабруйшчына"*

*4. Научное общество "Светач"*

*5. Хор мальчиков*

*6. Ансамбль "Ноктюрн"*

*7. Ансамбль "Нотные бусинки"*

*8. Танцевальная группа*

*9. Юный оформитель*

*10. Городской клуб "Юный пожарник"*

*11. Спортивные секции*

**Орган ученического самоуправления –**

*Школьная Республика. Органы управления: Президент, вице-президент, Совет командиров, Совет Министров.*

**В гимназии работает социально-психологическая служба.**

**В 1999 г. гимназия № 1 прошла аттестацию Республиканской Государственной инспекции системы образования Республики Беларусь.**

***Язык обучения в гимназии – русский.***

***Справки по телефонам: 3-42-03, 3-62-85, 3-62-71, 3-62-67***

**Администрация.**



## Полезные советы

### ПОЛОТНЯНЫЙ ДОКТОР

**Натуральная** ткань несет в себе определенный целебный эффект – об этом писали и это учитывали в своей практике врачи древности.

Например, шелк показан людям, страдающим болезнями холода и влажности, так как он обладает горячащими и сушащими свойствами.

Льняное полотно дает прохладу телу, и если всю зиму носить одежду из льна, то человек худеет, а если носить летом, то полнеет.

Натуральный хлопок хорош для всех – зимой он согревает, летом дает прохладу.

Вязаные и тканые изделия из шерсти обладают и высушивающими свойствами. Под них желательно надевать хлопок и лен. Но если их носить постоянно, то по мнению древних медиков, "тело истощается". Поэтому носить шерсть нужно тоже по показаниям. Заведомо это полезно лицам, страдающим заболеваниями почек и печени.

### ПЕЙТЕ НА ЗДОРОВЬЕ

Одни считают, что полезнее пить до еды, другие советуют – после. Третьи рекомендуют пить жидкость в течение всего дня маленькими порциями – по 2-3 глотка. Четвертые находят, что все это заблуждение. Как-то специалисты проверили здоровье людей, пивших воду глоточками через каждые 30 минут, и тех, кто употреблял чай, кофе и соки так, как привык. Вывод оказался прост: разницы в их самочувствии не обнаружилось. Так что пейте хоть до, хоть после елы, как вам хочется, как привыкли.

Врачи считают, что здоровому человеку достаточно 1,5-2 л воды в день. В жару и при почечной недостаточности пить надо больше, чтобы вывести шлаки с менее концентрированной мочой.

### ХРЕН УЛУЧШАЕТ ПИЩЕВАРЕНИЕ

**ХРЕН** обладает мочегонным и антимикробным действиями, он стимулирует выделение желудочного сока. Листья содержат много аскорбиновой кислоты и алколоиды. Сок хрена применяют как отхаркивающее, при ревматизме, затрудненном мочеиспускании, камнях мочевого пузыря, при бронхитах, для улучшения обмена веществ. Противопоказан при гастритах, заболеваниях печени и почек.

## Старинные рецепты



### РИЗОТТО

**рис 400 г, сыр 200 г, масло сливочное 100 гр.**

Рис отваривают в соленой воде, откидывают на дуршлаг, промывают в холодной воде. В смазанную маслом форму кладут слой риса, окропляют маслом, посыпают тертым сыром, снова кладут слой риса, потом поливают маслом и посыпают сыром и так укладывают рис до наполнения формы. Ризотто запекают в духовом шкафу, пока рис не подрумянится. Подают с подливкой из томатов или шампиньонов.

### БЛИНЧАТЫЕ ПИРОЖКИ С РАЗНЫМИ НАЧИНКАМИ

**молоко 1 л, яйцо 5, мука 320 г, соль, овощи разные, грибы, яйца, рис, гречка.**

Готовят разнообразные начинки по вкусу и по имеющимся возможностям. Овощи тушат с маслом, грибы отваривают и обжаривают, яйца отваривают и рубят, рис отваривают и промывают, из гречки варят рассыпчатую кашу.

Замешивают тесто и выпекают блины, обжаривая тесто лишь с одной стороны. Готовый блин выкладывают на стол на бумажную салфетку. На обжаренную сторону накладывают начинку, заворачивают и обжаривают на сковороде в масле.

## БУДЕТ ОТКЛЮЧЕНА ТЕПЛОЭНЕРГИЯ

С 11 по 25 мая 2000 г. будут проводиться испытания и ремонт тепломагистралей по ул. Володарского на участке ул. Октябрьская от ул. Минской до ул. Володарского, по ул. Красноармейской, на участке ул. Советская от ул. Красноармейской до санатория им. Ленина и прилегающих к ним улиц.

В указанное время потребителям, подключенным к этим теплотрассам, теплоэнергия отпускаться не будет.

В дни проведения испытаний, в начале и конце ремонта в дневное время будут иметь место перерывы подачи теплоэнергии всем потребителям города, подключенным к тепловым магистралям БТС.

*Администрация Бобруйских тепловых сетей.*



**Городской комитет Бобруйской организации Коммунистической партии Белоруссии, городской совет ветеранов и совет ветеранов Ленинского района выражают искреннее соболезнование члену партии с 1944 года, ветерану Великой Отечественной войны, председателю клуба "Фронтовичка" Антонине Марковне БУЛАВКО в связи с постигшим ее горем – безвременной смертью сына Владимира.**


Галоўны рэдактар Аляксандр ДЗЕМІДОВІЧ.

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ -**
**Бабруйскі гарадскі выканаўчы камітэт, гарадскі Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі газеты.**

**НАШ АДРАС:**
**213800, г. Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 103**



**галоўнага рэдактара - 7-20-14; намесніка галоўнага рэдактара-2-83-26; адказнага сакратара - 7-60-84; аддзелаў: *аддзела грамадска-палітычнага жыцця і сацыяльных праблем* - 7-80-57; прамысловага і інфармацыі; будаўніцтва, транспарту і гарадской гаспадаркі - 2-87-31; пісьмаў, масавай работы 7-36-93, радыёінфармацыі -7-80-57; фотакарэспандэнта - 7-36-93; *аддзела рэкламы* - 7-24-41, 7-24-45 ; бухгалтэрыі - 2-28-44. Факс: 7-24-45.**

**Газета выходзіць па аўторках, серадах, і пятніцах. Індэкс 64100. Рэгістрац. № 276.**

**Пункт гледжання аўтараў друкуемых матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытатаў, эканамічных даных, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў, іншай інфармацыі, а таксама за наяўнасць ў матэрыялах даных, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі.**

**Газета набрана і звёрстана ў камп'ютэрным цэху рэдакцыі газеты "Бабруйскае жыццё". Надрукавана ў друкарні імя Непагодзіна. Наш адрас: 213800, г.Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 103. Тыраж 10002. Заказ 4618. Нумар падпісаны да друку ў 17.00.**